УДК 94:271.2(476)«194/198»

*К. В. САЎЧЫК*

# КРЫНІЦАВАЯ БАЗА ДАСЛЕДАВАННЯЎ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАСЛАЎНАГА ПРЫХОДА Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 1940-х – 1980-я гг.: ПРАБЛЕМЫ ФАРМІРАВАННЯ І АПРАЦОЎКІ ІНФАРМАЦЫІ

Указаны и охарактеризованы фонды государственных архивов Республики Беларусь, в которых скомпонованы документы по истории православного прихода в БССР послевоенного периода. Осуществлен аналитический обзор данных архивных источников и произведено их разделение на следующие группы: документы фондов уполномоченных Совета по делам Русской православной церкви при Совете Министров СССР по БССР и по областям БССР; постановления советских и партийных органов по вопросам антирелигиозной пропаганды и контроля за исполнением норм законодательства о религиозных культах; уголовные дела, заведенные на священников и представителей приходского актива верующих. В свою очередь, документы фондов уполномоченных предложено разделить на три блока в зависимости от содержания: 1) переписка уполномоченных с партийными и советскими органами; 2) справки и отчеты уполномоченных; 3) регистрационные дела православных общин. На основе проведенного анализа выявлены факторы, негативно влияющие на работу исследователя с архивными источниками по данной проблематике. Также в статье проведен анализ законодательных актов, обозначены проблемы их анализа, обобщения и систематизации.

***Ключевые слова:*** исторические источники; архив; архивные фонды; архивные документы; законодательные акты БССР; устные источники; государственно-конфессиональные взаимоотношения; Русская православная церковь (РПЦ); белорусский православный приход; уполномоченный Совета по делам РПЦ; отчеты; регистрационные дела; методы исследований; проблемы сбора и обработки информации.

The paper identified and characterized the State Archives of the Republic of Belarus, which are arranged in the documents on the history of the Orthodox parish in Byelorussia postwar period. The author carried out an analytical review of data archival sources, divided them into the following groups: documents of the funds Authorized by the Board of the Council of Ministers of the USSR and BSSR areas BSSR ruling government and Party officials on anti-religious propaganda and enforcement of legislation on religious cults, criminal cases, wound up on the priests and parish representatives asset believers. In turn, the documents of the funds authorized to be invited to share three blocks depending on the content: 1) Correspondence Authorized by the Council for Russian Orthodox Church with Party and Soviet agencies, 2) certificates and reports of Authorized by the Council for Russian Orthodox Church, 3) the registry files Orthodox communities. Based on the analysis, factors affecting the work of researchers from archival sources on the subject. The article also analyzed the legislation designated problem analysis, generalization and systematization.

***Key words:*** historical sources; archive; archival collections; archival documents; legislation BSSR; oral sources; state-confessional relations; Russian Orthodox Church; the Belarusian Orthodox parish; authorized the Board for the ROC; reports; registration files; research methods; problems of data collection and processing.

Актуалізацыя пытанняў гісторыі праваслаўных прыходаў у БССР мае сваім храналагічным пачаткам 1990-я гг., перадумовай – узмацненне ў грамадстве агульнай тэндэнцыі да пераасэнсавання спадчыны савецкага часу, метадалагічнай асновай – адмову ад марксісцкай парадыгмы разумення гісторыі, а ў якасці галоўнага падмурка крыніцавай базы даследаванняў – рассакрэчаныя архіўныя дакументы. Сярод архіўных матэрыялаў, найбольш шырока даследуемых на сучасным этапе як свецкімі, так і царкоўнымі гісторыкамі, з'яўляюцца дакументы Савета па справах Рускай праваслаўнай царквы пры СНК СССР (з 1946 г. – пры Савеце Міністраў СССР)[1].

Напаўненне названых архіўных крыніц мясцовым канкрэтна-гістарычным матэрыялам было забяспечана стварэннем у 1943–1944 гг. інстытута ўпаўнаважаных Савета па справах РПЦ пры ўсіх

рэспубліканскіх органах выканаўчай улады і аблвыканкамах, у тым ліку пры СМ БССР і пры дванаццаці беларускіх аблвыканкамах. Дзякуючы гэтаму факту сучасныя беларускія даследчыкі маюць магчымасць працаваць з вялікай колькасцю адпаведных архіўных дакументаў пры распрацоўцы рэгіянальнага аспекту царкоўнай гісторыі[2].

Фонды мясцовых упаўнаважаных Савета па справах РПЦ (з 1965 г. – упаўнаважаных па справах рэлігій) сёння сфарміраваны ва ўсіх абласных дзяржаўных архівах рэспублікі, а таксама асобныя матэрыялы прадстаўлены ў занальных архівах гарадоў, якія з'яўляліся абласнымі цэнтрамі БССР у другой палове 1940-х – 1950-я гг., – у Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці (ф. 210 і 1482), Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці (ф. 1439 і 4131), Дзяржаўным архіве Гомельскай вобласці (ф. 1354 і 3441), Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці (ф. 475 і 478), Дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці (ф. 765 і 2340), Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці (ф. 812 і 3196), Занальным дзяржаўным архіве ў г. Бабруйску (ф. 1094), Занальным дзяржаўным архіве ў г. Баранавічы (ф. 477), Занальным дзяржаўным архіве ў г. Мазыры (ф. 596), Занальным дзяржаўным архіве ў г. Маладзечна (ф. 896), Занальным дзяржаўным архіве ў г. Пінску (ф. 679) і Занальным дзяржаўным архіве ў г. Полацку (ф. 1221)[3]. Аўтарам была праведзена работа па азнаямленню з дакументамі фондаў упаўнаважаных у архівах Мінскай, Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай абласцей і ў занальным архіве ў г. Мазыры. Высновы па выніках праведзенай работы сфармуляваны ў ніжэйпададзеных палажэннях.

Перш за ўсё прадстаўляецца неабходным акцэнтаваць увагу на тым, што дакументы пазначаных фондаў можна падзяліць на некалькі блокаў.

Першы – перапіска ўпаўнаважаных з Саветам, партыйнымі органамі і органамі савецкай улады. Дадзены блок уключае запыты ўпаўнаважаных па бягучых справах, удакладненні асобных арганізацыйных пытанняў, тлумачэнні кіруючых органаў, паведамленні аб выпадках парушэнняў у працы некаторых упаўнаважаных і мерах па недапушчэнню іх паўтарэння. У перапіску траплялі толькі нейкія выключныя падзеі, якія патрабавалі ад упаўнаважаных хуткага рэагавання, таму для глыбокага вывучэння розных бакоў царкоўнапрыходскага жыцця гэты блок малаінфарматыўны. Яго галоўнае даследчыцкае прызначэнне – даць звесткі аб эфектыўнасці выканання тым ці іншым упаўнаважаным сваіх кантралюючых функцый і, адпаведна, – аб паўнаце і якасці прадстаўленага ў іншых дакументах (у прыватнасці, у справаздачах упаўнаважаных) матэрыялу. Гэты фактар робіць мэтай правядзення аналізу дакументаў названага боку не накапленне звестак апісальнага характару, а павышэнне навуковага ўзроўню зробленых даследчыкам высноў.

Больш змястоўным па рэгіянальнаму канкрэтна-гістарычнаму кантэксту з'яўляецца другі блок архіўных дакументаў па гісторыі прыходскага жыцця ў БССР, які ўтвараюць даведкі, інфармацыйныя і статыстычныя справаздачы ўпаўнаважаных. Названыя дакументы ўтрымліваюць звесткі аб прыняцці на ўлік праваслаўных абшчын і зняцці іх з рэгістрацыі, дадзеныя па колькасці святароў і кірунках іх дзейнасці, па колькасці культавых будынкаў і іх стане, інфармацыю аб узроўні рэлігійнасці насельніцтва і актыўнасці ў адзначэнні рэлігійных свят, аб выпадках хуліганскіх дзеянняў у адносінах да вернікаў і інш.

І найбольш цікавую інфармацыю краязнаўчага характару ўтрымлівае трэці блок архіўных дакументаў, які складаюць рэгістрацыйныя справы рэлігійных абшчын. У іх па кожнай праваслаўнай абшчыне сабраны звесткі аб складзе органаў прыходскага самакіравання ў розныя перыяды яе існавання, біяграфіі святароў, вопісы царкоўнай маёмасці і звесткі аб тэхнічным стане культавых будынкаў.

Увогуле трэба адзначыць, што кола прадстаўленых у фондах мясцовых упаўнаважаных Савета афіцыйных дакументаў вялікае як па змесце (адлюстраваны фактычна ўсе формы ўзаемадачыненняў вернікаў і ўладных структур, прыведзены неабходныя статыстычныя дадзеныя і персанальныя звесткі аб святарах і царкоўных актывістах), так і па аб'ёме (напрыклад, толькі адзін фонд упаўнаважанага Савета па Гродзенскай вобласці (1944–1966) уключае 750 архіўных спраў)[4].

Квартальныя, паўгадавыя і гадавыя справаздачы ўпаўнаважаных, якія складаліся ў чатырох экзэмплярах і прадстаўляліся ў Савет у Маскве ўпаўнаважанаму па БССР і ў мясцовы аблвыканкам, прадубліраваны ў фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (НАРБ) і ў фондах Расійскага дзяржаўнага архіва найноўшай гісторыі (РДАНГ).

Пастановы абласных, гарадскіх і раённых камітэтаў Камуністычнай партыі Беларусі (КПБ) па пытаннях правядзення антырэлігійнай прапаганды, а таксама інфармацыйныя даклады і перапіска ўпаўнаважаных захоўваюцца і ў фондах былых партыйных архіваў:

1) Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гомельскай вобласці – ф. 144;

2) Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гродзенскай вобласці – ф. 1, 2, 3, 9, 10, 14, 15, 16, 2193, 2460, 4832, 5915 і 6176;

3) Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Магілёўскай вобласці – ф. 2, 5, 9, 15, 27, 29, 30, 40, 45, 51, 1072, 2953, 2955, 4317 і 6620[5].

Акрамя фондаў мясцовых упаўнаважаных Савета, дакументы лакальнага характару, якія ўтрымліваюць асобныя звесткі аб колькасці культавых будынкаў РПЦ, дзейнасці святароў і рэлігійных настроях насельніцтва, аб закрыцці цэркваў і стане антырэлігійнай прапаганды, у большай ці меншай ступені прадстаўлены таксама і ва ўсіх фондах органаў дзяржаўнай улады як абласных, так і занальных архіваў[6].

Палітычныя настроі рэпрэсіраваных вернікаў і духавенства, іх узаемаадносіны і асноўныя кірункі ўзаемадзеяння па-за межамі храма знайшлі адлюстраванне на старонках крымінальных спраў, якія захоўваюцца ў фондах архіва Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь[7].

Усё прыведзенае складае абгрунтаванне вылучэння архіўных крыніц у якасці фундаменту крыніцавай базы даследаванняў па вызначанай праблематыцы. Разам з тым на якасць яе фарміравання значны ўплыў аказваюць наступныя фактары.

Першы фактар – прагматычны. Дастунасць сканцэнтраваных у дзяржаўных архівах дакументаў аб'ектыўна пацвярджае і аптымальныя інструментальныя магчымасці даследчыка. Пры гэтым адзначаны раней вялікі аб'ём даследуемых матэрыялаў, а таксама іх аднатыпнасць вымагаюць ісці па шляху пабудовы абагульняючых канструкцый на падставе асобна ўзятых фактаў ці беручы за аснову абагульненні, зробленыя ўпаўнаважанымі Савета. Зразумела, такі шлях мэтазгодны не толькі зыходзячы з прынцыпу зручнасці – звычайна ён задаецца самой пастаноўкай мэты, якая і дыктуе выбар сродкаў для яе дасягнення. У выніку толькі так даследчык атрымлівае магчымасць перавесці праблему ў сітуацыю рэалізацыі рашэнняў, але атрыманыя такім чынам вынікі нельга ў поўнай ступені назваць навукаёмістымі.

Другі фактар – ідэалагічны. Не выклікае пярэчанняў тое, што ўсе афіцыйныя дакументы складаліся дзяржаўнымі служачымі на падставе мэтанакіраванага, ідэалагічна выверанага адбору матэрыялаў у адпаведнасці з патрабаваннямі інструкцый і іншых нарматыўных дакументаў. Менавіта па гэтай прычыне нельга не прызнаць, што ацэначным меркаванням, якія прысутнічаюць у названых дакументах, бракуе аб'ектыўнасці. Пры гэтым суб'ектыўная афарбоўка вынікаў, якія робіць даследчык, дазваляе паглядзець на гістарычную сітуацыю з іншага боку, але не здымае суб'ект-аб'ектную праблему пры фармулёўцы высноў праведзенага даследавання.

Трэці фактар – кантэнтусны. Звесткі, якія ўтрымліваюць дакументы ўпаўнаважаных, не з'яўляюцца поўнымі і дакладнымі, бо, як вынікае з тлумачэнняў упаўнаважанымі прычын сваіх недастаткова ўважлівых адносін да выканання ўскладзеных на іх абавязкаў, патрэбныя дадзеныя збіраліся імі звычайна спехам (асабліва ў першыя пасляваенныя гады), без арганізацыйнай падтрымкі, а часта і насуперак дзеянням кіраўніцтва абкамаў і аблвыканкамаў, якое лічыла працу ўпаўнаважаных несур'ёзнай і непатрэбнай[8]. З гэтага вынікаюць і праблемы ў апрацоўцы прыведзеных у справаздачах упаўнаважаных статыстычных дадзеных, якія выкліканы не толькі іх тэндэнцыйнасцю і недакладнасцю, але і сегментарнасцю: упаўнаважаныя збіралі не агульную інфармацыю аб дзейнасці прыходаў, а толькі тыя звесткі, якія патрабаваў Савет. Так, у 1947–1949 гг. усе звесткі афармлялі па даведзеных зверху формах № 1–5: «Звесткі аб колькасці рэлігійных кропак», «Звесткі аб складзе праваслаўнага духавенства», «Звесткі аб колькасці нядзеючых царкоўных будынкаў», «Звесткі аб праваслаўных малітоўных дамах, якія знаходзяцца ў грамадскіх і арандуемых у прыватных асоб будынках» і «Звесткі аб прыёме наведвальнікаў і паступленні розных заяў і скаргаў на імя ўпаўнаважанага»[9]. Такая клішыраванасць падачы матэрыялу была заклікана спрасціць яго апрацоўку, але на самай справе, наадварот, яе ўскладніла, бо лічбы ў тэксце справаздач і ў дадатках, прадстаўленых у выглядзе табліц па названых вышэй формах, звычайна істотна розняцца. Блытаніну ў справаздачах мясцовых упаўнаважаных па колькасці культавых будынкаў і наяўнасць прабелаў у дадзеных па святарах і царкоўных актывістах адзначаў у свой час і ўпаўнаважаны па справах РПЦ па БССР[10]. Між тым для вызначэння асаблівасцей дзейнасці царкоўнапрыходскіх абшчын на тэрыторыі БССР менавіта сабраны ўпаўнаважанымі фактычны матэрыял (звесткі аб святарах, колькасці вернікаў, стане малітоўных будынкаў і інш.) прадстаўляецца найбольш каштоўным.

Пералік адмоўных фактараў можна было б працягнуць, але і ўжо названыя адназначна сведчаць, што, зыходзячы з узроўню развіцця сучаснага навуковага досведу, выкарыстанне звестак архіўных крыніц у якасці адзінага даследчыцкага апірышча не з'яўляецца прымальным. На жаль, адсутнасць разумення гэтых праблем ці іх свядомае ігнараванне шэрагам даследчыкаў стварылі ў айчыннай гістарыяграфіі сітуацыю, калі, нягледзячы на ўвядзенне за апошнія дваццаць гадоў у поле навуковай аналітыкі значнай колькасці вышэйпазначаных крыніц, сам працэс факталагічнага накаплення ў дадзеным навуковым рэчышчы застаўся на стадыі фрагментарнага вырывання той ці іншай інфармацыі.

Акрамя таго, спецыфіка прадстаўленых у беларускіх архівах дакументаў абумовіла і кірунак даследчыкаў амаль выключна на вывучэнне праблем дзяржаўна-царкоўных узаемаадносін, а не рэгіянальных асаблівасцей уладкавання прыходскага жыцця[11].

Пры фарміраванні крыніцавай базы даследаванняў па гісторыі беларускага праваслаўнага прыхода нельга абысці і такі від дакументальных крыніц, як нарматыўныя акты (дакументы дзяржаўнага і царкоўнага заканадаўства), без вывучэння якіх немагчыма вызначэнне прававога становішча праваслаўных абшчын у БССР і асаблівасцей прававога рэгулявання іх дзейнасці ў другой палове 1940-х – 1980-я гг. Крыніцы дадзенага віду значна меншыя па колькасці ў параўнанні з архіўнымі, але не меншыя па сваёй значнасці. Сярод такіх дакументаў – пастанова СНК ССРБ ад 11.01.1922 г. «Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы» (прынята на аснове адпаведнага Дэкрэта СНК РСФСР ад 23.01.1918 г.)[12], пастанова УЦВК і СНК РСФСР ад 08.04.1929 г. «Аб рэлігійных аб'яднаннях»[13] і зацверджанае Указам Прэзідыума ВС БССР ад 27.02.1977 г. «Палажэнне аб рэлігійных аб'яднаннях»[14]. Кананічнае рэгуляванне дзейнасці прыходаў ажыццяўлялася ў адпаведнасці з нормамі прынятага Па-

месным Саборам РПЦ 31.01.1945 г. Палажэння аб кіраўніцтве Рускай Праваслаўнай Царквой[15] і пастановы Свяшчэннага Сінода Маскоўскай Патрыярхіі ад 18.04.1961 г. «Аб мерах па паляпшэнню існуючага ладу прыходскага жыцця»[16]. Пры гэтым нормы кананічнага права дакладна не рэгламентавалі магчымыя формы дзейнасці прыходскіх абшчын, а толькі замацоўвалі яе асноўныя кірункі. Правы і абавязкі як прыходскай абшчыны ўвогуле, так і асоб, якія атрымлівалі прыбытак ад яе дзейнасці (святароў, дыяканаў, псаломшчыкаў, рэгентаў, пеўчых, членаў выканаўчых органаў, вартаўнікоў і інш.), парадак набыцця неабходных для падтрымання малітоўнага будынка матэрыялаў і патрэбных для адпраўлення культу рэчаў, а таксама спосабы выплаты заробку за працу членам выканаўчых органаў, служачым і рабочым па найму дакладна вызначалі нарматыўна-прававыя акты, прынятыя Саветам Міністраў СССР, і лакальныя дакументы Савета па справах РПЦ[17]. Названыя прававыя акты, нормы якіх стварылі легальнае апірышча для адраджэння царкоўнапрыходскага жыцця ў БССР у першыя пасляваенныя гады, са зменай характару дзяржаўна-канфесійных адносін у канцы 1950-х – пачатку 1960-х гг. страцілі моц, а замест іх пачалі прымяняцца нормы, якія павінны былі істотна абмежаваць актыўнасць духавенства і органаў прыходскага самакіравання.

Сярод праблем, існуючых пры правядзенні аналізу заканадаўчых крыніц, неабходна адзначыць выкарыстанне аўтарамі навуковых прац па гісторыі праваслаўнай царквы ў БССР у якасці крыніцы выключна агульнасаюзнай нарматыўна-прававой базы і падмену тлумачэння зместу прававых норм іх апісаннем. Акрамя таго, даследчыкі не заўсёды ўлічваюць, што сам па сабе факт прыняцця нарматыўна-прававога акта не азначае яго аўтаматычнага ўвядзення ў дзеянне і паўсюднага прымянення. Таму ў шэрагу навуковых прац мае месца рэканструкцыя гістарычнай рэальнасці выключна на аснове зместу юрыдычных дакументаў без уліку існаваўшай у разглядаемы перыяд юрыдычнай практыкі[18]. Істотную дапамогу ў дакладным разуменні асаблівасцей прававога рэгулявання дзяржаўна-канфесійных узаемаадносін у БССР павінны былі б адыграць вынікі грунтоўных гісторыка-прававых даследаванняў па дадзенай праблематыцы, якія, на жаль, у айчыннай гістарыяграфіі пакуль адсутнічаюць.

Такім чынам, нягледзячы на тое, што вышэйпазначаныя віды крыніц з'яўляюцца найбольш даступнымі і ўтрымліваюць асноўны пласт інфармацыі па гісторыі праваслаўных прыходаў у БССР, існуюць: 1) праблема рэпрэзентатыўнасці выбарак, зробленых з архіўных дакументаў, якая патрабуе ад даследчыкаў абавязковага супастаўлення змешчаных у іх звестак з дадзенымі іншых крыніц (успамінамі сучаснікаў, матэрыяламі епархіяльных устаноў і інш.), даследчыцкая дзейнасць па збору і апрацоўцы якіх абцяжарана шматлікімі аб'ектыўнымі і суб'ектыўнымі фактарамі; 2) праблема правільнай апрацоўкі змешчанай у заканадаўчых актах інфармацыі, якая патрабуе ад гісторыкаў валодання спецыяльнымі юрыдычнымі метадамі даследаванняў пры распрацоўцы пытанняў прававой рэгламентацыі дзейнасці царкоўных прыходаў. Увогуле дадзеная праблематыка нераўнамерна забяспечана крыніцамі, лакуны ў асноўным закрыты, але ў рознай ступені рэпрэзентатыўнасці.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Гл.: Кулажанка У. Г. Асаблівасці арганізацыі жыцця праваслаўнай царквы ў Беларусі 1944–1948 гг. Па матэрыялах фондаў упаўнаважаных Савета па справах Рускай праваслаўнай царквы пры СНК СССР : да пастаноўкі пытання // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа : зб. навук. арт. : у 2 ч. Гродна, 2009. Ч. 2. С. 62–68 ; Маслова И. И. Совет по делам религий при Совете Министров СССР и Русская православная церковь (1965–1991 гг.) // Отечественная история. 2005. № 6. С. 52–65 ; Чумаченко Т. А. Совет по делам Русской православной церкви при СНК (СМ) СССР в 1943–1947 гг.: особенности формирования и деятельности аппарата // Власть и церковь в СССР и странах Восточной Европы. 1939–1958. (Дискуссионные аспекты). М., 2003. С. 69–99 ; Я е ж . Совет по делам Русской православной церкви при СМ СССР и отношения Московской патриархии с православными церквами Восточной Европы. 1948–1953 гг. // Свобода совести в России: исторический и современный аспекты : сб. ст. М. ; СПб., 2008. С. 295–311 ; Я е ж . Совет по делам Русской православной церкви при СНК (СМ) СССР. 1943–1965 гг. : автореф. дис. … д-ра ист. наук : 07.00.02. М., 2011.

[2] Гл.: Канфесіі на Беларусі (к. XVIII – XX ст.) / В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава ; навук. рэд. У. І. Навіцкі. Мінск, 1998 ; Елисеев А. Б. Актуальные вопросы современной историографии истории православной церкви в БССР (1940-е – начало 1950-х гг.) // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Мінск, 2008. Вып. 3. С. 112–117 ; Кривонос Феодор (священник). Белорусская Православная Церковь в XX столетии : спецкурс лекций для Минской духовной семинарии. Минск, 2008 ; Адамушко В. И. Документы Национального архивного фонда Республики Беларусь по истории православной церкви // Крещение Руси в судьбах народов Беларуси, России и Украины: выбор цивилизационного пути : материалы Междунар. науч. конф. (Минск, 6–7 июня 2013 г.). Минск, 2013. С. 30–34.

[3] Гл.: Документы по истории православной церкви в Беларуси XVIII–XX вв. в фондах государственных архивов Республики Беларусь : межархив. справочник / авт.-сост. О. А. Добычина [и др.]. Минск, 2003. С. 105–113.

[4] Там жа. С. 107.

[5] Там жа. С. 154–164.

[6] Там жа. С. 122–145.

[7] Гл.: Архіўныя справы № 13093-с, № 17155-с, № 18892-с, № 20622-с // Архіў Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь па Гомельскай вобласці.

[8] Гл.: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей – НАРБ). Ф. 951. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 10–16.

[9] Гл.: Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гомельскай вобласці (далей – ДАГАГВ). Ф. 144. Воп. 60. Спр. 8. Арк. 8–12, 17–21.

[10] Гл.: НАРБ. Ф. 951. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 12–13.

[11] Гл.: Мандрик С. В. Особенности государственной политики по отношению к Русской православной церкви в БССР (1953–1964 гг.) // Вести Ин-та совр. знаний. 2008. № 1. С. 17–20 ; Горанский А. О. Осуществление законодательства о культах в БССР (1965 – середина 1980-х гг.) // Вести Ин-та совр. знаний. 2008. № 1. С. 13–16 ; Бубнов П. В. Административные и экономические формы борьбы с церковью в советское время // Беларусь: государство, религия, общество : материалы Междунар. науч.-практ. конф. (Минск – Жировичи, 7 июня 2007 г.). Минск, 2008. С. 60–63 ; Корнеў П. І. Антырэлігійная барацьба ў Брэсцкай вобласці (1953–1959 гг.) // Канфесіі на Беларусі: гісторыя, сучаснасць : зб. матэрыялаў Міжнар. навук.-практ.

канф. (Брэст, 7–8 кастр. 2004 г.). Брэст, 2005. С. 34–38 ; Кулажанка У. Г. Асаблівасці арганізацыі жыцця праваслаўнай царквы ў Беларусі 1944–1948 гг. …

[12] Гл.: Об отделении церкви от государства и школы от церкви : постановление СНК ССРБ // Свод законов БССР : в 2 т. Минск, 1984. Т. 1. С. 402.

[13] Гл.: О религиозных объединениях : постановление ВЦИК и СНК РСФСР от 08.04.1929 г. (с изм. и доп. от 23.06.1975 г.) // О религии и церкви. Минск, 1983. С. 92–103.

[14] Гл.: Положение о религиозных объединениях : утв. Указом Президиума ВС БССР от 27.02.1977 г. и Законом БССР от 01.03.1977 г. // Свод законов БССР. Минск, 1984. Т. 1. С. 403–411.

[15] Гл.: Положение о руководстве Русской Православной Церковью : принято Поместным Собором РПЦ 31.01.1945 г. // Русская православная церковь в советское время (1917–1991) : в 2 т. М., 1995. Т. 1. С. 353–355.

[16] Гл.: О мерах по улучшению существующего строя приходской жизни : постановление Священного Синода Московской Патриархии от 18.04.1961 г. // Журн. Московской Патриархии. 1961. № 8. С. 6.

[17] Гл.: Занальны дзяржаўны архіў у г. Рэчыца. Ф. 342. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 165 ; Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (далей – ДАВВ). Ф. 4131. Воп. 1. Спр. 9. Арк. 67–72 ; ДАВВ. Ф. 4131. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 2, 5–8.

[18] Гл.: Гаранскі А., Мандрык С. Рэформа прыходскага кіравання 1961 г. і яе наступствы ў Беларусі // Беларус. гіст. часоп. 2010. № 11. С. 8–16.

Паступіў у рэдакцыю 03.02.2014.

***Кацярына Віктараўна Саўчык*** – старшы выкладчык кафедры правазнаўства Гомельскага філіяла Міжнароднага ўніверсітэта «МІТСО».